


# THE WALKING DEAD

58
$2.99




KIRKMAN • ADLARD • RATHBURN

Хадзячыя мерцвякі
58 (2003)
пераклад і афармленне: Козыраў Сяргей




...


Яны...


Усё ў парадку, мужык... Табе не абавязкова...
У самым пачатку, калі ўсё гэта толькі пачалося, сфарміравалася група вы-жылых... Мясцовых жыхароў. Мы ўсе трымаліся разам, каб абараніць адзін аднаго.
Сябры... суседзі...


Яны **згвалтавалі** маю жану і дачку.


Мы былі ў разводзе... але я жыў непадалёк. І першае, што я зрабіў - знайшоў іх... І пляваць на тое, што нам казалі рабіць па тэлевізары.


Яна была з добрымі людзьмі. Мы ведалі іх, прынамсі, большую іх частку. Мы доўга працавалі разам. І нейкі час нават здавалася, што ў нас усё атрымаецца.


Хаваліся мы ў прадуктовай краме. Нам здавалася, што гэта месца будзе лёгка абараніць... І ў ім было досыць ежы і харчоў.
Я і яшчэ некалькі хлопцаў выбраліся, каб пашукаць зброю. У мяне быў дотык да мясцовага зброевага скла-ду... І нашай мэтай было ўнесці столькі, сколькі зможам.
Я не разумею... Я нават не ўяўляю сабе, як моцна **змяніліся** людзі.


Некаторыя... У іх быццам сраны выключальнік унутры. Сёння яны мілыя, добрыя хлопцы, а заўтра... дзікія жывёліны.
Некаторыя з гэтых жывёлін засталіся ў краме ў той дзень.


Ня ведаю, што прымусіла іх зрабіць гэта... Ды і ніколі ня буду ведаць. Мабыць, яны проста вырашылі, што гэта іх апошні шанс на сэкс з жанчынай... І яны яго не страцілі.
Мой сын спрабаваў змагацца. Яны схапілі яго... і прымусілі глядзець.


Звонку вандравалі натоўпы гэтых пажадлівых смактуноў... А я нават уявіць сабе не мог, што замкнуў сваю сям'ю сам на сам з чымсьці больш жудасным.

...

Яны хацелі забіць маю сям'ю і яшчэ двух дзяўчын, якія яны згвалтавалі... Каб упэўніцца, што ніхто не прагаворыцца.
Але штосьці, што ўсё яшчэ заставалася ў іх унутры, не дазволіла ім гэтага зрабіць. Пацешна, што **гэта** была менавіта тая рыса, праз якую яны не змаглі пера-крочыць...

І я даведаўся.
Я даведаўся і расправіўся з імі. Мне дапамагалі, але самыя жудасныя рэчы я здзяйсніў сам. Ніколі ня думаў, што я ў стане зрабіць такое... Ніколі ня думаў, што такое наогул магчыма.
Я разарваў у жмуты шасцярых амаль голымі рукамі. Зляцеў да гака з гробаных шпулек... Аднаго хлопчыка практычна вывярнуў навыварат. Ён быў добрым хлопцам... Касіў мне траўнік, калі быў малым...

Ты зрабіў тое, што было трэба...
Не. Я зрабіў тое, што **хацеў** зрабіць.

Яны ўсё бачылі. Мая сям'я **бачыла**, як я ўсё гэта рабіў. Ня трэба ім было на гэта глядзець. Яны **спужаліся**.
Мяне спужаліся.
Я напужаў іх так моцна, што яны ўцяклі ад мяне.

Я прачнуўся наступным ранкам, а іх ужо не было.

Яны сышлі, бо былі вельмі напужаны, каб далей заставацца каля мяне. Яны бачылі, што я чалавек, які нічым не лепш тых, каго забіў.

Магчыма, яны мелі рацыю.

Я накіраваўся за імі. На гэта спатрэбілася амаль цэлы дзень... І нарэшце я знайшоў іх.

Але было ўжо занадта позна.

Мая жана і сын былі мёртвыя... З'едзеныя жыўцом... Ад іх мала што засталося, што магло б вярнуцца зноў. Дачка была таксама мёртвая... Але яшчэ на гэтым свеце.

Яна йшла за мной. Я глядзеў у яе твар... Здавалася, яна памятае ўсё, што здарылася, усё тое, што прывяло яе да смерці. Яна ўсё гэта памятала...

...і за ўсё гэта яна **вінавaціла** мяне.

Я застрэліў яе.

Я стрэліў сваёй маленькай дзяўчынцы прама ў твар.



Праз некалькі месяцаў... Разіта і Юджын на той момант ужо далучыліся да нас і мы былі на шляху сюды... Адны рабяты вырашылі сцяглуць у нас ежу і пакінуць групу.
Я схапіў іх за гэтай справай.
І застрэліў.
Я забіў усіх трох... Бо яны **кралі** ў нас.
Яны пагражалі нашаму жыццю... Маглі пакінуць нас на голад, але я... я ж **забіў** іх.
Проста неверагодна, як **лёгка** я гэта зрабіў.
Мяне гэта нават не **засмуціла**.
Неверагодна... Наколькі я змяніўся. Як моцна мая сям'я **ненавідзіла** б таго чалавека, які я стаў.
...
Я...


Мы жылі ў турме, там быў адзін знявольнік - Дэкстэр... Ён узяў нас на прыцэл і пагражаў выштурхнуць адтуль.
У гэты момант на нас напалі вандроўныя... Пачаўся бардак.
Канешне, Дэкстэр быў злодзеям, але мабыць, я змог бы дамовіцца з ім... Ён бы дапамог нам зладзіць з вандроўнымі. Хто ведае, чым бы тады ўсё скончылася...
Я застрэліў яго. Калі пачалася мінусня, я вышыб яму мазгі.


Яшчэ быў хлопец, якога звалі Марцінэз.
Ён жыў у Вудбэры, тым горадзе, адкуль былі тыя людзі, што вымусілі нас пакінуць турму. Ён працаваў на чалавека, які адсек мне руку... Які забіў маю жану...


Ён падмануў нас. Дапамог уцекчы, каб мы ўзялі яго з сабой. А хутка, пасля таго, як мы вярнуліся ў турму, ён уцёк назад, за сваімі людзьмі.
Ён казаў мне, што проста хоча выратаваць людзей ад Губернатара, чалавека, які кіраваў горадам... Што хоча проста прывесці іх, каб яны жылі з намі.


Мабыць, гэта і была праўда. Ён **здаваўся** добрым чалавекам.
Але ў мяне была цяжарная жана, Карл... Я не мог рызыкаваць імі... Не мог дазволіць патрапіць ім у небяспечны стан.


Я наехаў на яго фургонам... Напэўна, я скалечыў яго.
Потым выйшаў з машыны... Забіў яго да смерці... І кінуў у полі.


Навошта ты расказваеш мне ўсё гэта?


Гэта як пстрычка пераключальніка... Вось яны цалкам добрыя людзі... Потым пачынаецца ўвесь гэты бардак і пстрык... яны становяцца пачварамі.
І справа ў тым, што я не лічу, што гэта так жудасна.


Ты і я... І нашы ўласныя пераключальнікі. Мы зробім усё, што заўгодна... **усё**, што заўгодна для таго, каб выжыць і дапамагчы выжыць блізкім нам людзям.
Людзі без пераключальніка... тыя, хто не былі гатовыя ператварыцца з законапаслухмяных грамадзян у забойцаў...
...цяпер шорхаць навокал і спрабуюць нас зжэрці.


Мы робім тое, што павінны.
І зусім не важна, як мы будзем з гэтым жыць... Галоўнае, што будзем.


Калі б Карл даведаўся аб усім, што я...


Я застрэліў чалавека.


Мне ён зусім не падабаўся. Мне не падабалася, як ён увінаецца за мамай. Але ён добра да мяне ставіўся... Большую частку часа.
А потым ён звар'яцеў... Хацеў забіць майго тату...
І я застрэліў яго.


Я бачыў, як з яго цячэ кроў. Яму было страшна.
Але не так страшна, як мне...


Часам я ўзгадваю аб гэтым. І тады мне становіцца сумна... Але зараз я **рады**, што забіў яго.
Хацеў бы я застрэліць таго, хто забіў маю маму і сястру.


І гэтага чалавека мінулай ноччу... Няхай нават ён і не паспеў нашкодзіць мне.
Тат, я бачыў тое, што ты зрабіў гэтай ноччу. Я бачыў усё і нават не заплюшчыў вочы.


Мне не было страшна. Я **хацеў**, каб ты зрабіў гэта. Мне патрэбна была **дапамога**.
Я толькі думаў...
Я баяўся, што калі ты даведаешся пра думкі, якія часам прыходзяць мне ў галаву, ты будзеш мяне **ненавідзець**.


Карл...

О божа... Карл.





SHLUKK!

Ну ўсё, з мяне **досыць**.

Ммм?
А, добрай раніцы, дарагі.

Андрэа, мілая... Я не вытрымаю яшчэ адну ноч, як гэтая. Мяне ўжо **ванітуе** ад гэтых намётаў.
З мяне **ўжо досыць**.

Дзякуй.
Я хачу знайсці месца... Невялікае такое месца, толькі для нас з табой і блізнятаў. Знайсці і застацца там жыць.
Лічу, будзе бяспечней быць самім па сабе... Я хачу пакінуць групу. Я так вырашыў.
Ты жа **ведаеш**, мы не можам.

А чаму не? З-за **Рыка**? Не хочаш кідаць яго?

Некалькі тыдняў назад... Я бы з табой згадзіўся. Я быў упэўнены, што ведаю яго. Лічыў яго сваім сябрам.

А **зараз**, гэта ўжо зусім іншы чалавек. Ён пужае мяне.

Дэйл, пасля таго, што ён пeражыў... Ты кінеш яго?

Мне да чорта шкада гэтага хлопца.

Але ад гэтага ён не стане меньш небяспечным.










Ты, быццам бы, выдатны навуковец... Працуеш на ўладзе... І носіш «рыбін хвост»?
«Рыбін хвост».
Вось ён дакладна не робіць цябе падобным на разумнага.

Менавіта.
Так і было задумана. Я не хацеў выдзяляцца... Не хацеў, каб людзі меркавалі пра мяне, грунтуючыся толькі на маім выглядзе.
Я сутыкаўся з вялікай колькасцю людзей з час свайго вандравання... І прыхаваны інтэлект даваў мне перавагу.

Мабыць, лепш сілкаванне абмяркуеце?

Так, мяне гэта таксама турбуе. З пункту гледжання стратэгіі... Улічваючы шчыльнасць насельніцтва, чым больш мы перамяшчаемся, тым больш у нас шансаў адшукаць ежу.
Але абраўшы дадзены маршрут, мы можам сутыкнуцца з пэўнымі праблемамі.

Мы спажываем больш, чым знаходзім. Час нам пачаць эканоміць.
Сумняваюся, што ўсё так дрэнна... У нас яшчэ засталося дастаткова правіянту.

Напэўна, гэта не такая ўжо і дрэнная думка... Зрабіць перапіс запасаў. Высвятлім, што ў нас засталося і вызначым, калі нам можа спатрэбіцца зацягнуць паясы... Калі, канешне, гэты час яшчэ не настаў.
Можам заняцца гэтым, пакуль чакаем.

Ну і выдатна... Давайце пачынаць... А я збіраюся за руль. Хачу знайсці нам больш бяспечнае месца на нач... А яшчэ я буду шукаць ежу па дарозе.

Ведаю, Абрахам не хацеў расходаваць паліва... Але я вазьму грузавік. Я не ўеду далека... Тут ёсць з'езд з магістралі... Павінна ж гэта дарога кудысьці весці.

У гэтым ёсць сэнс. Усе мы спадзяемся, што гэта ўсяго на адну ноч, але, лічу, усе разумеюць, што, магчыма, і на большы час... І бяспечнае месца, дзе можна пачакаць - гэта вельмі добра.

Я пачну выгружаць харчы.

Я застануся... Дапамагу ахоўваць лагер.

Не. Ты паедзеш са мной... Дай мне магчымасць дагадацца з табой. Пайдзі абудзі Мэгі. Яна з Гленам прыглядзяць за дзецьмі.

Мічоні зможа сама абараніць...

А дзе..?







Я пазнаю гэтыя месцы. Мы ўжо блізка?
Так. Яшчэ гадзіна і будзем на месцы.



Твой дом? Сімпатычны...
Дакладней, быў сімпатычным.
Дзякуй.


Я не хачу заходзіць унутр.


І ня трэба. Нам там рабіць няма чаго. Проста заставайся ў машыне, я хутка вярнуся.


Пайду праверу, ці тут яны яшчэ.
Давай ідзі... Мне тут будзе, чым заняцца.


THWAKK!


Дуэйн, гэта я!
Гэ...!


Ня трэба табе гэтага рабіць, прыяцель!


Тата!


О божа...
Прабач.


Божа мой, Морган...


Што тут здарылася?


...


Абрахам, прашу, забяры Карла адсюль.


Гааааарррррх.


Калі гэта... Колькі ён ужо ў такім стане?


Тры месяцы... Мабыць больш. Я не памятаю.
Усё, што я памятаю, гэта тое, як ён крычаў. Татуля! Татуля!
Татуля!
Ён ніколі не называў мяне так з тых часоў, як быў зусім маленькім.


Тады я толькі прыехаў сюды... Гэта было так даўно.




Божа мой, мужык...
Колькіх ты..?


Чацвёра... Усе мужчыны. Некалькі сабак. Людзі заходзяць сюды... Шукаюць ежу... І яны **заб'юць** цябе за яе. Што б у цябе ні было, ім гэта **трэба**.
Можна сказаць, я абараняў сябе. Гэта была сама-абарона.
**Можна так сказаць...**
Я ня ведаў, што яшчэ мне рабіць.


Гэта быў мой сын, Рык. Мой сын... Я проста не мог...
Я не змог бы...
Божа, мужык...
Проста...
Літасцівы божа.


Табе не зразумець... Твой сын... Ты...
Калі б толькі яго позірк стаў іншым... Такім, як раней... Калі б толькі ён пазнаў мяне...


Мне ж нічога больш не патрэбна...
Я ж яго бацька...
Я проста хачу, каб ён мяне пазнаў...


Морган...


Морган, ты ж ведаеш, гэта не твой сын. Твой сын мёртвы. Прабач... Мне шкада, што так здарылася, але ён мёртвы.
Ты не зможаш прымусіць сябе паверыць у тое, што гэтага не здарылася, робячы... тое, што ты робіш.
Гэта толькі цела... У ім не засталося нічога ад твайго сына. Ён памер.
Адпусці яго.

Я не магу... Не магу...
Божа... Што ж я нарабіў?

Дазволь мне ўвезці цябе з гэтага месца. Спыні ўсё гэта і паехалі з намі.

Ня ведаю, ці **змагу** я.
Я не...

У гэтага павінен быць канец.



Што здарылася?
Ён паедзе з намі.


Яму патрэбна некалькі хвілін, каб развітацца.
Вось і ўсё.


BLAM!




Тат, ён..?
Ня ведаю.


Пасля таго, што ён спрабаваў зрабіць... Ты сапраўды хочаш, каб гэты шаленец паехаў з намі?


Усё.


Так... Ён едзе з намі. Ён такі ж, як і мы, Абрахам.
Усе мы рабілі жудасныя рэчы дзеля тых, каго любілі.










ТОМ 1.

# ЧАРАПАШКІ-НІНЗЯ

(IDW PUBLISHING, 2011)





**Teenage mutant ninja turtles. TPB 1 (#1-4). Change is Constant**
**(c) Kevin Eastman, Tom Waltz, Dan Duncan**
**(c) IDW Publishing, 2012**
**Чарапашкі-нінзя. Том 1 (№1-4). Змены гэта сталасць**
**Пераклад на беларускую мову - Сяргей Козыраў, 2012**
**ComicsBY, Гомель, 2022**
**Другая рэдакцыя**

Чарапашкі-нінзя вяртаюцца ў коміксы ў сваёй першай прыгодзе IDW! Для Чарапашак гэта іншы свет... Група падзелена: Рафаэль блукае па вуліцах Ню-Ёрка ў пошуках ежы і сховішча, а яго браты і майстар Сплінтар займаюцца пошукамі згубленага брата, але пакуль усё, што яны могуць знайсці, гэта непрыемнасці ў выглядзе валачашчага ката-мутанта Старога Нячысціка і яго банды злачынцаў!
Далучайцеся да Тома Вальца, Дэна Данкана і аднаго са стваральнікаў TMNT Кевіна Істмана, каб пачаць дзікае падарожжа!



**Kevin Eastman**



**Tom Waltz**

# СТАНЬ ЧАСТКАЙ НАШАЙ СУПОЛЬНАСЦІ НА PATREON

www.patreon.com/comicsby

Твой удзел дапаможа нам праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў на patreon:

**Чытач**

**1 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Калі ты сапраўдны **ЧЫТАЧ**. Даступны нашы рэлізы на месяц раней, чым у сацыяльных сетках і артыкулы пра коміксы і іх герояў.

- На 1 месяц раней, чым усе
- Артыкулы

**Афіцыйны патрон**

**3 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Цяпер **АФІЦЫЙНЫ ПАТРОН** атрымлівае спасылку на **рэліз новых серый на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак. Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «**Цуда-жанчына**», «**Дарт Вэйдар**», «**Вядзьмар**», «**Чорны молат**», «**Дэпартамент праўды**» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці афіцыйных патронаў. Таксама афіцыйным патронам даступны «Дзённік перакладчыка» і «Планы».

- На 1 год раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў
- На 1 месяц раней, чым усе
- «Дзённік перакладчыка», «Планы»
- Артыкулы

**Патрон з падпіскай прэміўм**

**5 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

**ПАТРОН З ПАДПІСКАЙ ПРЭМІУМ** атрымлівае ўсё тое, што і Афіцыйныя патроны, але... Для патронаў з падпіскай прэміум мы плануем публікацыю эксклюзіўных матэрыялаў.

- Эксклюзіўныя матэрыялы
- На 1 год раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў
- На 1 месяц раней, чым усе
- «Дзённік перакладчыка», «Планы»
- Артыкулы

## Нашы мэты:

**100 патронаў** -
мы наймем перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
мы створым выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
наша выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.